© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 10 (941) ГОД XIX БЕЛАСТОК 10 САКАВІКА 1974 г. ЦАНА 60 гр.


## 20 год з роднай песняй

I так, за нашым славутым Гарадком ужо два дзесяткі год настойлівай працы і сотні-сотні выступленняў! Усюды: у перапоўненых вясковых святлічках пры нафтавай лямпе ў самых глухіх куточках Беласточчыны і на залітых ірдзістым святлом сцэнах тэатраў Варшавы, перад мікрафонамі і камерамі Польскага радыё і тэлевізіі і за мяжою перад савецкімі сябрамі ў Гродна. I заўсёды з вялікім поспехам.

А пачалося ўсё надта скромна. У марозны студзеньскі вечар 1954 года сабралася ў пакойчыку-чытальні гарадоцкай бібліятэкі грамадка жанчын-любіцельніц добрай кнігі. Слова за словам, і рашылі чым-небудзь адзначыць Міжнародны жаночы дзень 8 сакавіка. Па глухіх завулках мястэчка гуляла завейка, а яны абмяркоўвалі, як тут арганізаваць хор. Думак і прапаноў было шмат, але стала на адным: хор павінен быць і кіраваць ім будзе вопытны і актыўны грамадскі дзеяч Ніна Мушынская. I Ніна Мушынская ўсім сэрцам аддалася справе — згуртавала ў хоры 17 гарадоцкіх жанчын і дзяўчат з найлепшымі галасамі, апрацавала рэпертуар, пакіравала рэпетыцыямі і нават паклапацілася пра касцюмы і дэкарацыю на першае выступленне. I вось яно, 8 сакавіка 1954 года ва ўспамінах Н. Мушынскай:

— Кожная з нас перажывала тады, як, не параўноўваючы, у дзень свайго шлюбу. Усе бегалі ад самага ранку, дэкаравалі сцэну, прасавалі касцюмы, мерылі, дапасоўвалі, хацелі выглядаць як найпрыгажэй... Калі падняўся занавес, бура апладысментаў, як лавіна palілася з залы. Нам стала горача, і хваляванне заткала горла, але, на шчасце, не на доўга, і пакуль суцішыліся воплескі, мы ўжо маглі спяваць. А выступленне ўдалося на славу — сведчылі аб гэтым доўгія бравы і бісы...

I ўжо цераз пару тыдняў хор заваёўвае сэрцы беластоцкіх слухачоў і заваёўвае першае месца на павятовым конкурсе савецкай песні. Затым — багатая праграма на першамайскай урачыстасці ў Гарадку, потым у Чорнай Беластоцкай і іншых мястэчках, а таксама ў Беластоку. I так ужо пайшло: у будні вечары — рэпетыцыі, у кожную нядзелю — на выступленні па ўсёй Беласточчыне. Увесь калектыў працаваў ахвоча. Маладзіцы пакідалі дома малых дзяцей і мужоў, сапеўшых са злосці, што жонка стала вялікай артысткай, не шкадавалі часу дзяўчаты — усё было ахвяравана песням, любімым песням. А іх рэпертуар не быў надта вытанчаны: гэта былі беларускія народныя песні, што бытавалі ў Гарадку і яго ваколіцах, папулярныя савецкія і польскія творы, насыча-

(Працяг на стар. 4)



## Праз тыдзень у „Ніве“

Беласточчына — Варшаве ● Насустрач юбілею ● Алендры ● Пра слаўную краўчыху з Вейкаў ● Людзі і слёзы ● Пра ТППР у Гайнаўскім беларускім ліцэі ● Карэспандэнцыя з Гродна ● Весткі з Шымкаў, Дубровы, Заблудава, Саколкі, Крывяціч, Спічкоў, Гапчыкалаў, Скраблякоў, Гарадка, Гайнаўкі, Сідры, Тапалян і інш. ● Папулярная савецкая песня „Песня о Днепре“.

## Нашы інтэрв'ю

## ЗБоВіД

12 сакавіка 1974 года адбудзецца ў Беластоку VI акруговы з'езд прадстаўнікоў **Саюза барацьбітоў за свабоду і дэмакратыю.** Таму папрасілі мы намесніка старшыні акруговага праўлення ЗБоВіД **Станіслава Блоха,** каб адказаў на некалькі пытанняў.

**„Ніва“:** *Хто належыць да вашай арганізацыі?*

**Старшыня:** Акруговая арганізацыя ЗБоВіД ў Беластоцкім ваяводстве налічвае цяпер звыш 16 тысяч чалавек. У яе саставе найбольш, бо аж звыш 6 тысяч чалавек, былых салдат Войска польскага, якія гераічна абаранялі нашу Радзіму ў верасні 1939 года. Другую па колькасці групу — 2370 чалавек — састаўляюць таксама салдаты, але тыя, якія ваявалі з гітлераўцамі ў радах ужо Людовага Войска Польскага. Шмат нашых членаў (1366) служыла ў вайну ў Савецкай Арміі, а яшчэ больш у Арміі Краёвай. Варта яшчэ адзначыць, што сярод нас знаходзіцца 1086 былых вязняў гітлераўскіх канцэнтрацыйных лагераў і 130 ветэранаў рэвалюцыйных змаганняў. Затым у радах ЗБоВіД маем былых партызанаў Арміі і Гвардыі Людовай, Сялянскіх Батальёнаў, савецкіх партызанскіх атрадаў, а таксама работнікаў падпольнага навучання. 1210 нашых членаў заслужылася ў час барацьбы за ўмацаванне народнай улады ў першыя пасляваенныя гады.

Наша арганізацыя мае адкрыты характар. Яна даступна ўсім тым, хто актыўна змагаўся за дэмакратыю і свабоду ў нашай краіне. Таму сярод нас ёсць члены розных партыйных арганізацый, аднак найбольш беспартыйных і членаў Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Па сацыяльнаму складу самую вялікую групу — звыш 10 тысяч чалавек — састаўляюць сяляне, за імі ідуць рабочыя і работнікі розных устаноў.

**„Ніва“:** *Чым займаецца ЗБоВіД?*

**Старшыня:** ЗБоВіД займаецца ўсімі справамі нашых членаў. Аднак асноўныя нашы заданні вынікаюць з партыйна-ўрадавай праграмы сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне. Члены ЗБоВіД, наколькі дазваляюць ім сілы і здароўе, заўсёды стараюцца быць першымі ў ажыццяўленні гаспадарчых і грамадскіх заданняў. Для прыкладу, сяляне — члены нашага Саюза — прымалі актыўны ўдзел у конкурсах „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная“. Асабліва ў Гайнаўскім павеце. Многія з іх заваявалі званне **„Майстра сельскагаспадарчай прадукцыі“**, або **„Прыкладнага гаспадара“.** Значная колькасць членаў ЗБоВіД у вёсках прыняла на сябе абавязацельствы павялічыць размеры прадукцыі ў сваіх гаспадарках. З Белавежы, Рыбакоў, Трасцянкі, Дубіч Царкоўных, Кляшчэляў, Чаромхі, Арэшкава і з іншых вёсак паведамляюць нам, што нашы члены прымалі там удзел у будове дарог грамадскім чынам.

(Працяг на стар. 4)

## БГКТ хроніка

■ 11 лютага адбыўся пленум варшаўскага аддзела БГКТ, на якім была абмеркавана справаздача аб дзейнасці ў 1973 годзе. Прадставіў яе сакратар аддзела Віктар Швед. У час дыскусіі Юрый Туронак станоўча ацаніў арганізаванне дакладаў і лекцый. Мікалай Данілюк гаварыў аб тым, што нядзельныя вечарыны адыгрываюць выхаваўчую ролю. Баляслаў Манкевіч прапанаваў, каб наладжваліся сустрэчы з пісьменнікамі з БССР, якія далі б асабліва многа карысці нашым бэгэкатоўскім літаратарам. Мікалай Врублеўскі і Хведар Галёнка звярнулі ўвагу на неабходнасць пошукаў новых форм працы з моладдзю, між іншым, аб арганізаванні курсаў навучання беларускай мовы. Сябра Годун сваё выступленне прысвяціў праблемам працы харавога калектыву. Старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік расказаў прысутным аб формах працы БГКТ на Беласточчыне і аб заданнях БГКТ у сувязі з святкаваннем XXX гадавіны Народнай Польшчы. Затым выступіў эстрадны калектыў аддзела. Удзельнікі пленума пастанавілі, што ён прыме ўдзел у фінальным песенным аглядзе БГКТ. Вёў пленум старшыня аддзела Аляксандр Баршчэўскі.

■ 21 лютага калектыў песні і танца „Белавежа“ з гайнаўскага аддзела выступіў у доме культуры „Гурнік“ з канцэртам з нагоды 56-ай гадавіны Савецкай Арміі.

■ 23 лютага адбылося пасяджэнне арганізацыйнага камітэта песеннага конкурсу БГКТ, на якім канчаткова былі вырашаны ўсе арганізацыйныя справы.

■ Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку 23 лютага наладзіў урачысты вечар, прысвечаны 56-ай гадавіне Савецкай Арміі. З дакладамі выступілі старшыня аддзела Мікалай Гайдук і капітан Войска Польскага Пётр Дзяконскі. Пасля афіцыйнай часткі адбылася танцавальная вечарына.

■ 23 лютага сямяціцкі аддзел БГКТ супольна з гуртком вясковых гаспадынь у Мілейчыцах адзначыў 56-ую гадавіну Савецкай Арміі ўрачыстым вечарам. Была цікавая мастацкая частка, а таксама танцавальная вечарына.

■ 24 лютага па ініцыятыве гуртка БГКТ у Плёсках з нагоды спамянутай ужо гадавіны адбыліся ў клубе выступленні мясцовага эстраднага калектыву, а пасля танцы.

■ Справаздачна-выбарныя сходы ў гуртках БГКТ на Бельшчыне адбыліся ўжо ў 30 гуртках. 23 лютага падсумавалі сваю дзейнасць, прынялі далейшы план працы і выбралі новае праўленне члены гуртка ў Снежках. Складаецца яно з наступных асоб: Вера Мароз — старшыня, Валянціна Рубашэўская — сакратар, Яўгенія Хаманская — скарбнік. Бэгэкатоўцы з Кназазоў пасля абмяркоўкі дзейнасці гуртка выбралі новае праўленне: Соф'я Лапцева — старшыня, Людміла Панасюк — сакратар і Надзея Ляшук — скарбнік. У Крывой у праўленне гуртка выбраны: Галена Назарук — старшыня, Мікалай Семянюк — сакратар і Сцяпан Пракапюк — скарбнік.

(мх)

Нашым мілым жанчынам жадаем з нагоды жаночага свята многа сонца ў жыцці!

Рэдакцыя

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

 СВЕТ  БССР  ПОЛЬШЧА  ВАЯВОДСТВА

## СВЕТ

### ЗАКЛІК

Арганізацыя Аб'яднаных Нацый прыме меры да таго, каб аблегчыць лёс чылійскага народа, заявіў генеральны сакратар ААН К. Вальдхайм у пасланні Артэнсіі Бусі дэ Альендэ, удаве забітага путчыстамі прэзідэнта Чылі Сальвадора Альендэ. Гэтае пісьмо з'яўляецца адказам на пісьмо Артэнсіі Бусі дэ Альендэ, у якім яна заклікае генеральнага сакратара ААН дабівацца вызвалення жыцця чылійскіх патрыётаў, вызвалення іх з турмаў і канцлагераў, спынення жахлівых злачынстваў, што нясе хунта ў Чылі.

### БАГАТЫЯ ЗАПАСЫ

Савецкі Саюз можа абяспечыць сыравінай патрэбы высока развітай прамысловасці на доўгі перыяд. Зараз у СССР эксплуатуецца больш 5 тысяч месцанараджэнняў сыравіны.

Здабыча нафты, згодна з планам, у 1975 годзе складзе 480—500 мільёнаў тон, а газу ў гэтым жа годзе — 300-320 мільярдаў кубаметраў.

Аднак у далейшым асноўнай энергетычнай сыравінай будзе вугаль. Тэарэтычна геолагі ацэньваюць запасы вугалю на 6,8 трыльёна тон, г. зн. палову сусветных запасаў.

### НАРМАЛІЗАЦЫЯ ЖЫЦЦЯ

Урад Егіпета прыступіў да здзяйснення хуткіх мер па нармалізацыі жыцця ў горадзе Суэц.

Пасля вялікага перапынку на вуліцах і плошчах запаліліся агні, адменена картачная сістэма размеркавання прадуктаў, пачалі працаваць магазіны і рынкі.

Распрацаваны перспектыўны васьмігадовы план развіцця Суэца, які будзе здзяйсняцца паэтапна. На працягу першага года будуць адноўлены ўсе разбураныя жылыя і грамадскія будынкі, наладжана транспартная сістэма і сфера абслугоўвання.

### НА КАНФЕРЭНЦЫІ

У Мехіка закончылася канферэнцыя дзяржаў Лацінскай Амерыкі і Карыбскага басейна, а таксама ЗША.

З першага дня гэтай канферэнцыі выявіліся вельмі сур'ёзныя рознагалоссі паміж членамі Арганізацыі амерыканскіх дзяржаў (ААД) і іх паўночным суседам. Так, група лацінаамерыканскіх краін — Венесуэла, Перу, Мексіка, Гандурас — патрабавала, каб ЗША спынілі выкарыстанне „шматнацыянальных карпарацый", якія звілі свае гнёзды ў розных кутках кантынента і з'яўляюцца інструментам знешняй палітыкі Вашынгтона. Больш таго, гэтыя краіны падрыхтавалі спецыяльны дакумент, у якім была рашуча асуджана эксплуататарская і падрыўная дзейнасць амерыканскіх манаполій. Як вядома, гэтыя манаполіі выцягваюць вялікія барышы з розных краін, пазбягаюць платы падаткаў, ствараюць валютны хаос шляхам перакідкі капіталу з адной краіны ў другую. Апрача таго, яны часта ўмешваюцца ў палітычныя справы тых дзяржаў, дзе дзейнічаюць.

(ак)

## БССР

### ПРАДУКЦЫЙНЫ ЎЗДЫМ

Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР газета „Звязда" апублікавала нядаўна вялікі артыкул „Сацыялістычныя абавязацельствы працоўных Беларускай ССР па датэрміноваму выкананню народна-гаспадарчага плана 1974 года", у якім чытаем:

„На аснове ўсенароднага сацыялістычнага спаборніцтва працоўных і павышэння інтэнсіўнасці вытворчасці за мінулыя тры гады пяцігодкі нацыянальны даход у БССР павялічыўся на 27,7 працэнта супраць 25,8 па плану на гэты перыяд. Аб'ём прамысловай вытворчасці ўзрос на 35 прац. пры заданні 30 прац., прадукцыйнасць працы павысілася на 23 — замест 20,8 прац. Звыш плана выпушчана прамысловай прадукцыі на 1,4 мільярда рублёў, у тым ліку на 450 мільёнаў рублёў тавараў народнага спажывання".

На 1974 год у БССР пастанаўляецца: павысіць нацыянальны даход на 9—9,2 прац., пры гэтым не менш 83 прац. прыросту нацыянальнага даходу атрымаць за кошт павышэння прадукцыйнасці працы. У галіне прамысловасці павялічыць аб'ём вытворчасці на 9,5—10 прац. У галіне сельскай гаспадаркі сабраць з кожнага гектара па 25—26 цэнтнераў збожжавых, 160—165 цэнтнераў бульбы, 250—260 цэнтнераў цукровых буракоў. Па капітальнаму будаўніцтву гадавы план падрадных работ выканаць да 28 снежня, а па аб'ектах лёгкай, харчавой, мясной і малочнай прамысловасці — да 25 снежня. Укараніць метад поўнага гаспадарчага разліку не менш чым у 1.300 нізавых будаўнічых падраздзяленнях.

Адначасова акрэслілі свае абавязацельствы ўсе вобласці БССР.

### XXV З'ЕЗД КАМСАМОЛА БЕЛАРУСІ

У Мінску адбыўся XXV з'езд Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі Беларусі, у радах якога 1.200.000 дзяўчат і юнакоў. Чырвоны сцяг Беларускай камсамольскай арганізацыі ўвенчаны стужкамі вышэйшых узнагарод СССР — ордэна Леніна і ордэна Чырвонага Сцяга. Са справаздачным дакладам выступіў I сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі Уладзімір Падрэз, які адзначыў, што асабліва шырокім размахам вызначаецца ўдзел юнакоў і дзяўчат у руху за камуністычную працу. Звыш 470 тыс. маладых працаўнікоў змагаюцца за званне „Ударнік камуністычнай працы", больш чым 180 тыс. з іх ужо ўдастоены гэтага ганаровага звання. Больш чым 120 тыс. маладых працаўнікоў вытворчасці і звыш паўтары тысячы калектываў датэрмінова, да 1 снежня, завяршылі планы трэцяга года пяцігодкі. Асноўная праца арганізацыі праходзіць пад лозунгам „У кожнай вёсцы, у кожным горадзе — ударная камсамольская справа". Дэлегаты з'езду выбралі цэнтральныя кіруючыя органы.

(вр)

## ПОЛЬШЧА

### СУСТРЭЧА НАЙВЫШЭЙШЫХ УЛАД З ДЭЛЕГАЦЫЯЙ ЗБОВІД

I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк у прысутнасці прэм'ера П. Ярашэвіча прыняў дэлегацыю ЗБоВіД. Арганізацыя гэтая налічвае цяпер 400 тысяч членаў. Сустрэча адбылася ў год XXX-годдзя ПНР і перад V кангрэсам ЗБоВіД, які адбудзецца ў пачатку мая.

### I САКРАТАР ПРЫНЯЎ

За апошні тыдзень I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк прыняў шматлікіх замежных палітыкаў, якія з афіцыяльным візітам наведалі Польшчу.

I так, Э. Герэк прыняў старшыню дэлегацыі Фронту нацыянальнага вызвалення Алжыра — члена Рэвалюцыйнай рады, міністра замежных спраў Ш. Белькасема.

Э. Герэк і П. Ярашэвіч прынялі міністра замежных спраў Фінляндыі А. Караляйнена. Фінляндскі міністр быў таксама прыняты старшынёй Рады Дзяржавы Г. Яблонскім.

I сакратар ЦК сустрэўся з генеральным сакратаром ЦК Камуністычнай партыі Перу Ю. дэль Прадо, які наведаў нашу краіну.

### З ПАСЯДЖЭННЯ ПАЛІТБЮРО

На чарговым пасяджэнні Палітбюро ЦК ПАРП вырашыла стварыць Інстытут марксізму-ленінізму пры ЦК ПАРП. Арганізацыю і кіраванне ім Палітбюро аддало ў рукі сакратара ЦК А. Верблянa.

### ГАСПАДАРЧАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА З ЗАГРАНІЦАЙ

Асноўная праблема замежнай палітыкі і гаспадарчае супрацоўніцтва з замежнымі краінамі былі тэмай краёвай нарады ва Упраўленні Рады Міністраў. Была гэта ўжо другая агульнакраёвая нарада, скліканая партыйна-дзяржаўным кіраўніцтвам для апрацавання задач па рэалізацыі нацыянальнага грамадска-гаспадарчага плана за 1974 год. Вёў нараду I сакратар ЦК Э. Герэк. З дакладам на тэму выступіў прэм'ер П. Ярашэвіч.

### ПОЛЬСКАЯ АТАМНАЯ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫЯ

Урады Польскай Народнай Рэспублікі і Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве пры пабудове ў Польшчы ў гадах 1981—1983 першай атамнай электрастанцыі.

СССР даставіць асноўнае абсталяванне і гаручае для польскай ядзернай электрастанцыі, першы блок якой будзе мець моц 440 MW.

---

**З прычыны раптоўнай смерці актыўнага члена варшаўскага аддзела БГКТ**

**мгр МАРЫІ ШВЕД**

**словы глыбокага спачування БАЦЬКАМ І БРАТУ**

**складае Прэзідыум праўлення варшаўскага аддзела БГКТ**

---

## ВАЯВОДСТВА

### БЕЛАСТОЧЧЫНА — ВАРШАВЕ

У першыя дні сакавіка ў Варшаве адбыліся заключныя канцэрты і сустрэчы ў сувязі з заканчэннем дзён Беласточчыны ў Варшаве. У сталічным Доме культуры настаўніка сустрэліся кіраўнікі нашага ваяводства з гаспадарамі сталіцы. Прысутнічалі I сакратар Варшаўскага камітэта партыі Ю. Кэмпа і I сакратар ВК ПАРП у Беластоку З. Куроўскі, міністр асветы і выхавання Е. Кубэрскі, беластоцкі ваявода З. Спрыха, прэзідэнты Варшавы (Е. Маеўскі) і Беластока (А. Чуж) і іншыя. На сустрэчы былі перададзены падарункі ад жыхароў Беласточчыны для Варшаўскага замка.

У варшаўскім заапарку адбылася ўрачыстая перадача беластоцкаму звярынцу двух ільвянят, якім дадзены імёны Белы і Сточак (у гонар нашага горада).

Адбыліся таксама сустрэчы з артыстамі, журналістамі, пісьменнікамі і вучонымі, а ў тэлебачанні — заключны канцэрт з конкурсамі для моладзі.

### НА БУДОВЕ ФЕРМЫ

I сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі разам з сакратаром ВК ПАРП С. Завадзінскім наведалі будаўнікоў вялікай жывёлагадоўчай фермы ў Суліме (Візнаўскі камбінат). Ферма, праект якой прадбачвае 4800 месц для адкорму цялят і маладняку, павінна была, паводле першага праекта, будавацца 30 месяцаў. Будаўнікі вырашылі пабудаваць яе за 12 месяцаў. А цяпер, у гонар 30-годдзя народнай улады, абавязаліся аддаць ферму ў карыстанне на 22 ліпеня.

### З'ЕЗД ЗСЛ

27 лютага ў Беластоку адбыўся XI ваяводскі з'езд дэлегатаў Аб'яднанага людовага стронніцтва (ЗСЛ). 134 дэлегаты — прадстаўнікі 19-тысячнай арміі людоўцаў, сабраліся, каб падсумаваць сваю працу за апошнія гады. Дасягненні нашага ваяводства ў галіне сельскай гаспадаркі — гэта таксама і вынік добрага супрацоўніцтва партыі з ЗСЛ, гэта добрая праца членаў і актывістаў ЗСЛ. Разам з усім народам, членаў ЗСЛ чакаюць новыя важныя заданні ў далейшым развіцці нашай сельскай гаспадаркі. З'езд прыняў праграму дзейнасці і выбраў улады ЗСЛ на бліжэйшыя два гады.

### МЕНШ СКАРГ

У Ваяводскім камітэце партыі, з удзелам павятовых устаноў, адбылося пасяджэнне камісіі па справах скарг ад грамадзян. Як паінфармаваў кіраўнік аддзела лістаў і інспекцыі ВК ПАРП З. Пшыбыльскі, у мінулым годзе колькасць скарг зменшылася ў параўнанні да 1972 года на 1/3. А змест скарг усё часцей пачынае датычыць не індывідуальных, а агульнаграмадскіх спраў. На нарадзе гаварылася аб дакладным аналізе кожнай скаргі і абавязковым вырашэнні пастаўленых праблем.

### ДЛЯ ХВОРЫХ

У беластоцкай клінічнай бальніцы абсталяваны ультрагукавы інгалятар для лячэння людзей з хваробамі дыхальных шляхоў, напрыклад, астмай, алергіяй і іншымі.

(яч)

---




**Niedziela 10.III.**

6.40 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 7.10 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 7.40 TV Kurs Rolniczy. 8.25 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 8.45 „Bieg po zdrowie". 8.55 Program dnia. 9.00 TELERANEK. 10.20 PKF. 10.30 „Antena". 10.45 „Piórkiem i węglem". 11.10 Dziennik. 11.25 „Przez Atakanę" — film St. Szwarc-Bronikowskiego. 12.55 Poezja Polska. 12.00 „Chata pełna muzyki" — „Oberkiem dookoła Polski" — program folklor. 12.30 Program wiejski. 13.00 Gra Orkiestra TV Katowice pod dyr. I. Wikarka. 13.25 Dla dzieci: „Co to jest? — konkurs-zabawa. 14.05 „Wielka gra". 14.55 „Postaw się — nie zastaw się". 15.45 Losowanie Toto-Lotka. 16.00 Pokazy mistrzów w jeździe figurowej na lodzie. 17.30 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Szkoła uczuć" — film franc. odc. II. 21.15 „Alfabet Rozrywki" — „Z — jak Zemsta". 22.15 Informacyjny Magazyn Sportowy. 23.15 Dobranoc dla dorosłych.

**Poniedziałek 11.III.**

12.45 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 15.55 NURT. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec". 17.30 „Echo stadionu". 17.55 TV Kurier Mazowiecki. 18.10 „Oferty". 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV Z. Nałkowska — „Dom kobiet". 21.50 Program publicystyczny. 22.20 Gra zespół „Old Timers". 22.40 Dziennik.

**Wtorek 12.III.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 9.05 „Szkoła uczuć" — film franc. (kolor) odc. II. 10.00 Dla szkół: (kl. V—VI) Język polski — „O miejsce wśród ludzi". 10.25 „Siedemnaście mgnień wiosny" — film TV Radz. odc. IV. 13.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 14.30 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Kino Skrzat". 17.05 „Sylwetki X Muzy" — Reżyser Maria Kaniewska. 17.30 Dla młodzieży: „Czarne i... białe". 18.20 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.40 Program publicystyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Siedemnaście mgnień wiosny" — film TV Radz. odc. IV. 21.30 Wiadomości sportowe. 21.40 „Interstudio nr 19". 22.10 „Historia niezupełnie prawdziwa" — program rozr. 22.45 Dziennik.

**Środa 13.III.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 9.00 „Letnia przygoda" — film fab. NRD. 11.05 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Wychowanie plastyczne — „Czy szata zdobi?". 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „W czasach terroru". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Fizyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 14.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.55 NURT. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Emancypacja białogłowy" („Obyczaje"). 17.10 „Informacje, Towary, Propozycje". 17.25 Losowanie Małego Lotka. 17.35 „Konsylium" cz. I. 18.05 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.25 „Zaduszki" — film TV czechosł. („Łuk tęczy"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Król szczurów" — film fab. ameryk. 22.30 Wiadomości sportowe. 22.50 „Konsylium" cz. II. 23.05 Dziennik.

**Czwartek 14.III.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Fizyka. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 9.10 „Zaduszki" — film TV czechosł. („Łuk tęczy"). 10.00 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — „Cyprian Kamil Norwid". 10.35 „Tragiczna noc" — film NRD („Telefon 110"). 11.50 „Wikingowie bałtyccy" — film dok. szwedzki. 12.55 Dla szkół: (kl. III-IV lic.) Język polski — „Leopold Staff". 13.25 TV Kurs Informatyki. 13.55 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 14.30 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 15.05 Matematyka w szkole: Własności ilorazu — I. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 PKF. 17.55 „Wiem wszystko" — teleturniej. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Poligon". 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Tragiczna noc" — film NRD („Telefon 110"). 21.35 Program publicystyczny. 22.05 Wiadomości sportowe. 22.10 „Maszeruje 5 panów" — program rozr. 22.45 Dziennik. 23.00 „Informacje, Towary, Propozycje".

**Piątek 15.III.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 8.35 „Pejzaż z bohaterem" — film fab. pol. 10.00 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „Na Mazowszu". 10.30 „Honorowy pojedynek" — film ameryk. („Człowiek z Nevady"). 11.05 Dla szkół: (kl. II) „Cztery opowieści". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Mechanizacja rolnictwa. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 14.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.45 Program dnia. 15.50 NURT. 16.20 Program I proponuje. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora". 17.20 „Turystyka i wypoczynek". 17.45 Dla młodzieży: Tygodnik Informacyjny Młodych „Dwie szkoły" — telekonkurs. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Zodiak — pod znakiem Ryb". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Honorowy pojedynek" — film ameryk. („Człowiek z Nevady"). 20.45 „Panorama". 21.25 Wiadomości sportowe. 21.30 Teatr TV: Eurypides — „Medea". 22.30 Dziennik. 22.45 Kronika Międzynarodowych Zawodów narciarskich o Puchar Tatr w Zakopanem.

**Sobota 16.III**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Mechanizacja rolnictwa. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 8.05 „Hetti" — film ang. („Rodzina Straussów"). 9.00 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „Puszcze nad Amazonką". 9.30 Filmy z Marleną Dietrich: „Destry znów w siodle". 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku — „Układ nerwowy". 12.40 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 13.15 TV Technikum Rolnicze: Mechanizacja rolnictwa. 13.45 Transmisja z Międzynarodowych Zawodów narciarskich w Zakopanem o Puchar Tatr — konkurs skoków. 15.45 Program dnia. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.00 Dziennik. 16.10 Dla dzieci: „Sobótka". 16.40 Dla młodych widzów: „Harcerskie popołudnie". 17.35 „Nie tylko dla pań". 17.55 „Hetti" — film ang. („Rodzina Straussów"). 18.45 „Godzina Orfeusza" — mag. muz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Filmy z Marleną Dietrich: „Destry znów w siodle". 21.50 Dziennik. 22.10 Wiadomości sportowe. 22.20 „Prawdziwa historia Leśniczanki Krysi" — komedia muzyczna. 23.10 Kronika z Międzynarodowych zawodów narciarskich w Zakopanem. 23.25 Śpiewa Helena Vondraczkowa — program TV Czechosł..




**Piątek, 8 marca**

7.30 Program dnia. 7.45 Koncert życzeń. 11.05 Mistrzostwa świata w jeździe figurowej na lodzie. 13.00 Operetka. 15.00 Filmy animowane. 15.30 Narciarstwo. Puchar Świata. 16.05 Wieczór świąteczny w Ostankino. 18.00 TV teatr miniatur. 19.00 Czas. 19.30 Estrada. 20.00 Mistrzostwa świata w jeździe figurowej na lodzie.

**Sobota, 9 marca**

7.00 Program dnia. 8.30 Mozaika muzyczna. 8.45 Przegląd międzynarodowy. 8.55 Mistrzowie filmu białoruskiego. 9.45 Koncert życzeń. 10.15 Komedia filmowa. 12.00 Otwarcie III zimowej spartakiady narodów ZSRR. 14.00 Koncert życzeń. 14.30 Filmy animowane. 15.00 W świecie zwierząt. 16.15 III zimowa spartakiada narodów ZSRR. 16.30 Film dokument. 17.35 Spektakl TV. 19.00 Czas. 19.30 Mistrzostwa świata w jeździe figurowej na lodzie.

**Niedziela, 10 marca**

7.00 Program dnia. 11.00 Film fab. 13.20 Knot. 13.30 Panorama międzynarodowa. 14.00 Klub filmowy. 15.00 Mistrzostwa świata w jeździe figurowej na lodzie. 17.30 Koncert Magomajewa. 19.00 Czas. 19.30 c. d. koncertu. 20.40 Program sportowy.



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

## ЛЮДЗІ БГКТ

### Анатоль Казімерук

Кожную раніцу тысячы людзей нашага горада Беластока спяшаюцца на работу, на заводы і фабрыкі, у спулдзельні працы і майстэрні, у лабараторыі і дзяржаўныя ўстановы. Кожную раніцу некалькі тысяч чалавек прыходзіць на фабрыку „Прылад і ўхвытаў“. Сярод іх і Анатоль Казімерук.

Чалавек шчаслівы, калі яму добра ў яго калектыве, калі ён любіць калектыў і калектыў любіць яго. Анатоля Казімерука любяць рабочыя, майстры, інжынеры і кіраўніцтва прадпрыемства за яго сціпласць, за саліднасць у працы, за чалавечнасць. Працуе ён тут ужо восьмы год, пачаткова быў шліферам, а цяпер ён тэхнічны кантралёр. Любіць сваю працу, ды і зарабляе добра.

Калі вучыўся яшчэ ў пачатковай школе ў Саках (Гайнаўскі павет), дзіцячая цяга да машын прывяла яго ў прафесіянальную школу ў Гайнаўцы. Пасля стаў працаваць на металаапрацоўчай фабрыцы „Прылад і ўхвытаў“ у Беластоку. Паступіў у механічны тэхнікум, які закончыў у мінулым годзе. Цяпер разам з сястрой Галяй, якая закончыла эканамічны тэхнікум у Беластоку і ўжо працуе, Анатоль будуе ўласны мураваны дом пад Беластокам у Клеасіне.



*Анатоль Казімерук і Ірэна Шастоўская. Фота Я. Цялушэцкага.*

— Як пабудуем дом — сказаў ён, — буду жаніцца. — Вось мая будучая жонка, — узяў ён за руку прыгожую дзяўчыну і дадаў: яна таксама працуе і вучыцца. А дзяўчына прыветліва ўсміхнулася, глянула на Анатоля і разам з ім пачала адказваць на мае пытанні. Сядзелі мы тады разам у клубе гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. У гэтым жа клубе Анатоль і пазнаёміўся са сваёй каханай дзяўчынаю Ірэнай Шастоўскай, якая працуе прадаўшчыцай у „Гальцы“ і вучыцца ў вячэрнім эканамічным тэхнікуме. Сама яна з Войшкаў. Ужо не раз са сваім будучым мужам ездзіла і да сваіх, і да яго бацькоў. Але тут, у клубе БГКТ, у іх яшчэ адна сям'я, сям'я людзей, якія любяць беларускую культуру. Анатоль Казімерук ужо тры гады ўзначальвае раду клуба і з'яўляецца асноўным застрэльшчыкам мастацкай самадзейнасці. Члены БГКТ і яго сімпатыкі няраз захапляліся Анатолевымі жартоўнымі сцэнкамі падчас мастацкіх выступленняў самадзейнікаў гарадскога аддзела БГКТ. Цяпер ён з'яўляецца членам танцавальнай групы аддзела, якая працуе пад кіраўніцтвам Янкі Крупы. Першае сваё выступленне танцавальная група падрыхтавала на ўрачысты вечар, прысвечаны міжнароднаму дню жанчын.

— Я з'яўляюся членам БГКТ ад 1967 г., — сцвярджае Анатоль Казімерук. — Зжыўся моцна я з БГКТ-оўскім калектывам і іду сюды і выходжу адсюль з задавальненнем і радасцю. Тут мой другі (апрача фабрычнага) калектыў, які неабходны мне для жыцця: калектыў таварышаў, калектыў прыяцеляў.

**Міхась Хмялеўскі**

## ПЕРАД МАТУРАЙ

Вучням апошніх класаў ліцэя засталіся лічаныя дні да канца года і да матуры. Гэта такі час, калі ўсе бяруцца за работу, каб добра падрыхтавацца да вялікага і цяжкага экзамена.

У лютым адбыліся ў ліцэях папулярныя стаднёўкі. Вучні чацвёртых класаў Бельскага беларускага ліцэя наладзілі стаднёўку ў пачатку лютага. Дзякуючы вялікім старанням дырэкцыі, настаўнікаў і бацькоў, баль удаўся на славу.

Пачаўся ён у 16 гадзін танцамі ў суправаджэнні аркестра „Нэвэні“. Асабліва маляўніча выглядаў паланез ў выкананні вучняў IV класаў. Танцы адбываліся ў прыгожа прыбранай фізкультурнай зале.

Потым усе пайшлі на супольную вячэру. Былі палымяныя і натхнёныя прамовы, пажаданні і заклікі да вучобы, да далейшага паглыблення сваіх ведаў. Настрой быў урачысты. Настаўнікі, бацькі і вучні спявалі песні — нашы, беларускія.

А ў панядзелак, на ранішнім апэлі дырэктар пахваліў нас за прыкладныя паводзіны і за добрую падрыхтоўку балю.

**Яўген Семянюк**

## ДА НАС ПІШУЦЬ — АДКАЗВАЕМ

### ЛЁС ЧАЛАВЕЧЫ

Наш сталы чытач і карэспандэнт Мікалай Панфілюк звярнуўся да рэдакцыі з пытаннем пра далейшы лёс яго дзядзькі Мефодзія Панфілюка — аднаго з герояў кнігі палкоўніка Яна Анаціка „Пад шчаслівай зоркай“ (Jan Onacik, „Pod szczęśliwą gwiazdą“, Warszawa, 1970). У кнізе, як вядома, гаворыцца, што ў канцы мая 1943 года Ян Анацік быў накіраваны ў Маскву на падрыхтоўку да выканання спецыяльнага задання ў тылу ворага, а Панфілюк застаўся ў сваёй воінскай часці. Ад гэтага моманту аўтар ужо не ўспамінае аб Панфілюку.

Мы звярнуліся да палкоўніка Яна Анаціка з просьбай паведаміць, што яму вядома пра яго сябра з ваенных год. Я. Анацік сказаў, што, на жаль, больш ужо не сустрэўся з Панфілюком. Толькі пасля вайны даведаўся, што ў славутай Курскай бітве (5 ліпеня — 23 жніўня 1943 года) прымала ўдзел воінская часць, у якой служыў Панфілюк. Але ён загінуў не ў бітве, а па сваёй неасцярожнасці трапіў пад колы цягніка на лініі Курск — Варонеж. Так, на жаль, людская смерць бывае часам недарэчнай.

Кнігу Яна Анаціка можна знайсці толькі ў бібліятэках, у продажы яе ўжо няма.

> **Шчасця большага няма ў зярняці,**
> **як на ніве роднай прарасці**
> **і да сонца коласам узняцца,**
> **гімнам несмяротным аб жыцці.**
>
> **Валянцін Таўлай**




### „Культура“ аб творчасці ВАСІЛЯ БЫКАВА

Вядомы польскі часопіс „Культура“ ў нумары ад 17 лютага змясціў артыкул Зэноны Мацужанкі „Быкаў — равеснік „Калумбаў“. Мацужанка, выдатны знаўца літаратуры, напісала гэты артыкул пры нагодзе з'яўлення польскага перакладу кніжкі Быкава „Сотнікаў“.

„Беларус Васіль Быкаў з'яўляецца равеснікам Братнага, Чэшкі, Залеўскага; калі нат крыху і малодшы ад іх, гэтаксама на парозе сталасці паспытаў вайны, прымаючы ў ёй непасрэдны ўдзел. Гэтаксама, як яны, не здолее і не хоча пакінуць пазначаны ёю вобруб маралі ды псіхікі. Можна сказаць, знаходзіцца ва ўсім гэтым больш учэпіста, чымсьці яго польскія сябры. Вайна, дылемы, якія высоўвала яна перад чалавекам, геройства, ахвярнасць, здрада і трусасць — адкуль і якім чынам гэтыя крайне розныя пачуцці ды паводзіны кіравалі людзьмі, што рашала аб тым, што адзін гінуў з годнасцю, да канца не пакідаючы думкі аб выратаванні іншых, нават і не думаючы аб здрадзе блізкіх, а побач такі самы, здавалася б, чалавек адрокся ад сваіх галоўных перакананняў, ратуючы толькі сваю скуру, — вось пытанні, ад якіх пакутуе пісьменнік у дваццаць пяць гадоў пасля заканчэння вайны, і паказвае іх у сваёй прозе. Выдатнай прозе, свежай, драматычнай, узбагачаючай савецкую літаратуру, прысвечаную другой сусветнай вайне, — апынуўшыся адразу побач Сіманава, Някрасава, Бека, Бондарава,“ — піша З. Мацужанка.

Яна дае агульны агляд творчасці пісьменніка, якога польскі чытач упершыню заўважыў у 1970 годзе, пасля выхаду „Альпійскай балады“.

Гаворачы аб „Сотнікаве“, Мацужанка піша:

„На полі бою застаюцца „пераможцы“ — гітлераўскія паліцыянты і дабраахвотнік у паліцыянты, былы партызан, спадарожнік Сотнікава. Ні подлы, ні дрэнны. Проста слабы, закаханы ў сябе і жыццё. Аўтар не дае нам простага каментарыя, падказваючага асуджэнне. Рыбак павінен сам сябе асудзіць. Разумее ўжо, што жыццё можа абазначаць таксама і тое, калі нельга чакаць ніякага ратунку. Апрача смерці няма іншых уцёкаў з радоў здраднікаў“.

Мацужанка звяртае ўвагу на біяграфічны факт: Быкаў вывучаў скульптуру. Гэта шмат што тлумачыць. „Быкаў сваіх літаратурных герояў як бы рэзбіць у слове, ды ашчадна рэзбіць, па-сучаснаму, пазбаўляючы іх усялякіх лішніх падрабязнасцей (...) Учынкі вырашаюць аб чалавеку, але гэтыя ўчынкі фармуюцца пад уплывам складаных імпульсаў. У канчатковым разліку гэта гісторыя нясе адказнасць за тое, што чалавек робіцца подлым. Але ў рамках гэтых гістарычных магчымасцей, урэшце-рэшт невялікіх, менавіта чалавек можа выбраць лепшы або найгоршы з найгоршых: варыянт салідарнай смерці або ратунку, горшага ад яе“.

Мацужанка звяртае ўвагу — у заканчэнні свайго артыкула — на надта добры польскі пераклад кніжкі Быкава, зроблены Анджэем Дравічам.

**Сакрат Яновіч**



**КАРЭСПАНДЭНТ ГОДА**

Як мы ўжо паведамлялі, найбольш актыўным карэспандэнтам „Нівы“ ў 1973 годзе аказаўся Мікалай Панфілюк, пісьманосец з Дубіч Царкоўных Гайнаўскага павету (на здымку справа). Яму і была ўручана першая ўзнагарода рэдакцыі. Уручае ўзнагароду член рэдакцыі М. Хмялеўскі.

Прыпамінаем, наш конкурс працягваецца ў гэтым годзе. Запрашаем да яго ўсіх нашых чытачоў.

## ЗАДРЫПАНКА

### МАЯ ПАКУТА

Вось я і пад новай страхой. Эманальныя праменні задрыпанскага сонца прыпякаюць мяне і ў даслоўным значэнні.

Пасля культурнай рэвалюцыі Кастусь, гэты завадатар задрыпанскіх хунвейбінаў, які з поўным разлікам рыхтаваў маё распяцце, раптам ператварыўся ў майго добразычліўца і прапанаваў паслаць мяне ў дом адпачынку (хай набярэ сіл і гартуецца ў эманальнай дзейнасці: дзе, як не ў такім мурашніку, найзручней пашыраць нашы ідэі!).

Якая гуманнасць! Якая дбайнасць аб грамадскіх інтарэсах!

На фарміраванне ў задрыпанцаў такой думкі і разлічваў Кастусь. Хітрасць яго тактыкі зразумеў я, апынуўшыся ў прыбытку сацыяльных заваяванняў працоўнага люду.

Які ж тут у чорта адпачынак?! Гэта дом пакуты!

І не толькі таму, што па паркеце хадзіць цяжка: ногі коўзаюцца. Гэта сапраўдны мурашнік, і твая клетка, здаецца, у самым яго цэнтры. Знізу раве іграючая шафа (салон музыкавання), зверху тупат (не інакш, пасялілі там табун каней), за спіною, у калідоры гудуць пыласосы, справа (за сценкай) шыпіць стары на старую, злева (за сценкай) квокча старая на старога. Мікалаеўскія парачкі спіліся ноччу і цяпер вінаватых шукаюць. Не ратуе карціны і акно: голыя дрэвы толькі ўзмацняюць сум.

Сум? Ты ж у мурашніку! Не павінен сумаваць. Столькі там мурашак! Вось менавіта. Прыпаўзлі яны з розных куткоў, атручаныя бытуючым сярод мурашынскага роду поглядам, што трапілі ў ачаг распусты. Таму нават пары з салідным стажам вяртаюцца тут у дэбютанцкую стадыю звышрэўнасці і пры з'яўленні адзінокай мурашкі (абавязкова, распуснік!), прыціскаюцца да сябе мацней і смаляць вачыма адзінокага бліжняга. Яна бліскае трапяткой дапытлівасцю, а ён глядзіць так, што калі б мог, спапяліў бы цябе.

Бедныя мурашкі, нястомныя ствральнікі неабдымных ілюзій.

Тут, Кастусь, ім не да нашых ідэяў. Ды ты аб гэтым добра ведаў!

Хацеў было расказаць пра Задрыпанку прыбіральшчыцы, але ў той былі свае клопаты.

— Калі захочаце мець свежы ручнік, — сказала яна мне, — дык стары кіньце на падлогу: гэта будзе знак для мяне.

Бачу, на вешалцы два свежанькія ручнікі. Ці ж не хопіць іх на два тыдні? Ды ў мяне і свой ёсць. Думаў, адным абыдуся. Але прыбіральшчыца кажа, што свайго брудзіць не трэба. Хай і так будзе, пытанне не заслугоўвае большай увагі. Але калі на другі дзень з'явілася мая заступніца і прапанавала прынесці снеданне ў пакой, я зразумеў, што бяруць тут мяне не за таго, кім я ёсць.

— Я не калека, — кажу ёй. — Сам схаджу ў сталовую (паверхам ніжэй).

І што вы скажаце? Абразіў прафесіянальную гордасць прыбіральшчыцы. Больш яна нічога не прапанавала, перастала нават здзіўляцца, што патраплю прыбраць тапчан (пан так прыгожа заслаў!). Што магла падумаць? Відаць, адно: дзярэўня!

Ну, бо ж і не пан. Хай сабе іншыя панеюць, хай іх Рудчык велічае (чытай яго „Баль на чатырыста пар“), я ў гэту ролю не гаджуся.

Праўда, нядрэнна было б з'есці ў сваім пакоі. А то дзвынкнеш лыжачкай, мацней сербанеш, і ўся зала на цябе ўтаропілася. Асуджаюць. Цяжкі мне гэты этыкет: ясі і смаку не чуеш. Ну, але ці лягчэй заказваць ежу ў пакой? Ад сораму згарэў бы.

А якія пакуты пераадолець мусіш, трапіўшы ў курортнае сутарэнне! Там зачараваная сцяна. Якіх толькі на ёй няма бутэлек! І ў кожнай жа адпаведны змест.

Але ў дэгустацыйнай галіне дужа не здабыў: грошы, адведзеныя Гапкай (снілася кожную ноч), дзейсна абмежавалі паглыбленне ведаў. Гэта была мая сцяна плачу. А назвалі месцайка „Пякелкам“. Відаць, хрышчонымі бацькамі былі вопытныя рэлігіязнаўцы. Не меншыя, у кожным выпадку, чым Кастусь, які засудзіў мяне на пякельныя кругі курорта.

Радуйся, антыхрыст! Ты перамог.

**ДЗЗ**



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

**НОЧ АТРАКЦЫЁНАЎ АБО БАЛЬ АНУЧНІКАЎ**

Балі анучнікаў, якія адбываюцца ў Доме настаўніка ў Гайнаўцы, маюць сваю амаль дзесяцігадовую традыцыю. Падчас іх адбываюцца конкурсы на найлепшага танцора, на найлепш зроблены касцюм. У балях прымае ўдзел многа настаўнікаў. Распарадчыкамі ўсіх танцаў, гульняў, конкурсаў з'яўляюцца Эля Міклашэвіч і Віктар Кабац.

**Тэкст і фота Я. Цялушэцкага**

## Марнатраўства ў Гайнаўцы на вуліцы Ліповай

Ваяводская спулдзельня спажыўцаў — аддзел у Гайнаўцы, пастанавіла пабудаваць спажывецкую краму на вуліцы Ліповай у Гайнаўцы — каля вузкакалейкі.

Ёсць там спажывецкі кіёск, ды хоць працуе на дзве змены, не ў сілах абслужыць усіх пакупнікоў, і людзі вымушаны хадзіць за пакупкамі ў цэнтр горада.

У 1972 годзе быў выдзелены пляц для будовы новай крамы. Пляц прыгожа абгарадзілі, назвозілі будаўнічых матэрыялаў. Жыхары суседніх вуліц цешыліся, што хутка прыйдзе канец клопатам з пакупкамі. Але цешыліся рана. Прыйшоў канец энтузіязму. Усё заглохла. Агароджа знішчылася. На кучы жвіру гуляюць дзеці. Страты ў будаўнічых матэрыялах дасягаюць 10 тысяч зл. Хто гэтыя страты зверне?

Ужо два гады людзі чакаюць новай крамы і кожны дзень, купляючы ў кіёску, паўтараюць, што справай гэтай хтосьці павінен заняцца.

Я, дарагая рэдакцыя, кірую справу да вас. Мо вы паможаце ліквідаваць такое марнатраўства будаўнічага матэрыялу? Яго трэба схаваць, каб не нішчэў далей. А мо пачнецца ўрэшце будова доўгачаканага і патрэбнага ў гэтым месцы горада Гайнаўкі гандлёвага павільёна?

**Раса**

## У гуранскай школе

Школа, настаўнікі — гэта цэнтр культуры вёскі. Калі ў гуранскай школе бывае ўрачыстасць, дык яна не толькі для школьнікаў. На яе ахвотна прыходзяць бацькі, бо ведаюць яны, што іх дзеці пад кіраўніцтвам настаўнікаў падрыхтуюць мастацкую частку, што выступяць перад імі і з вершамі, і з песнямі, і са скетчамі. А ўжо калі ў школе навагодняя ёлка, дык абавязкова ёсць аркестр. І пасля афіцыяльнай і мастацкай часткі распачынаецца танцавальная вечарына, якой асабліва задаволены старшакласнікі. Такія чатырнаццацігадовыя і шаснаццацігадовыя хлопцы і дзяўчаты любяць патанцаваць. Бацькі таксама любяць пабываць на такіх вечарынах. Вялікі школьны калідор тады ўпрыгожаны так, што прыемна паглядзець, і гэта таксама стварае ўрачысты настрой. Да канца школьнага года запланавана яшчэ некалькі падобных школьных вечарын. (мх)




## Самаход гэта не роскаш, а сродак перамяшчэння

Так пісалі вядомыя гумарысты Ільф і Пятроў. І вось, нягледзячы на тое, што я ніякі не Астап Бендэр і што „вялікім камбінатарам“ ніколі не быў, я ўсё ж купіў уласны самаход.

Уласны самаход за ўласныя, сумленна заробленыя грошы. Даруйце! Няма з чаго смяяцца. Я сам ведаю, што гэта гумарыстычна. А ўсё ж яно так. Мусяць жа ў канцы канцоў быць дзе-якія выключэнні, якія пацвярджалі б заканамернасць.

Адным словам, купіў і, не маючы гаража, паставіў пад вокнамі на панадворку. Пяшчотна пагладзіў дзверцы, чула заглянуў у фары, пашлёпаў па багажніку і пабег дахаты клікаць жонку. Перакусіў на хуткую руку і зірнуў у вакно. Бачу, сусед ідзе, паглядае зайздросна на маю „цацу“. Глядзеў, глядзеў ды сплюнуў са злосці — і проста на пярэднюю шыбу. Я — шмату ў рукі, вядро з вадою, бягу. Ну і сволачны народ пайшоў!

Не паспеў добра выцерці, калі выходзіць і жонка. Пры ўсіх, як кажуць медалях. Тут і новы касцюмчык, і модныя боты, на пупе пояс з пабрakушкамі. Крочыць важна. Носа кулаком не дастанеш. Ва ўсіх вокнах відneюць расплюшчаныя на шыбах насы суседзяў.

А дзеці дзе? Ужо паспелі! Старэйшы, прыкусіўшы язык, круціць рулём. Малодшы глядзіць чортам, на выхлопнай трубе патрубіць прабаваў. Добра, што вядро з вадою на месцы. Шматаю працёр. Да самахода трэба будзе, пэўна, узяць чыстую — каб, не дай бог, лакіроўкі не забрудзіць.

Пасядалі ўрэшце. Гляну ў на сваю каманду. Усе на месцах. Ключык управа, нага на педаль газу. „Пястунчык“ мой зачыхаў, кашлянуў разы два, урэшце фыркнуў і як не ірванецца ўперад — на агароджу проста. А тпр-у-у-у ты! А дзе ж у цябе тормаз, падлюга? Шукаю нагою тут і там! Брыкнуў, завыў і сціх.

Спакойна, толькі спакойна, павучаю сваю сямейку — так мяне настаўлялі на курсах. А як жа ж — слухаюцца. Старэйшы спакойна пацірае гуз, які набіў пры раптоўным тармажэнні, жонка — нагу, на якую я пачаткова, замест на тормаз, наступіў. Толькі малодшы, як заўсёды, хуліганіць — чамусьці смехам заліваецца. Усе суседкі да паўцела з вакон павылазілі.

Памаленьку ўсё ж рушылі. Нават наш квартал два разы, амаль без ніякага выпадку, аб'ехалі. Гэта, не ўлічваючы цяжка перапалоханай бабулькі і міліцыянера, які нас не толькі напалохаў, а яшчэ і аштрафаваў на соценьку за штосьці там, — трэба будзе ў кодэксе праверыць.

Ну, і пачалося працавітае жыццё. Я паступова асвойваю падыход да машыны, з чым пасля дзвюх-трох умяцін на баках, дзе як справіўся, і спецпадыход да аўтарамонтных прадпрыемстваў ды механікаў, з чым справа шмат труднейшая. Хлопцы, замест урокі рыхтаваць, зганяюць з кузава вераб'ёў — таксама знайшлі паскуднікі, дзе гадзіць. А жонка, замест абед гатаваць, усё нашага „найдаражэйшага“ працірае, блеск на ім наводзіць.

Ну, гэта не бяда, бо варыць ёй і так не было б з чаго. Праўду казалі Ільф і Пятроў. Не роскаш я прыдбаў, а сродак перамяшчэння.

Мала, што ўсе мае шматгадовыя ашчаднасці перамясціліся ў касу „Матазбыту“, мала што ўся мая зарплата рэгулярна перамяшчаецца ў рукі прадаўцоў бензіну, механікаў і міліцыянераў, то ўчора я яшчэ сам амаль што на той свет не перамясціўся, калі мне на шашы фурманка наперарэз выехала.

Таму, сябры, не зайздросцце нікому самаходу. Паверце! Сапраўды не роскаш гэта, а проста сродак перамяшчэння.

**Ларс**

## Беларускія кнігі

У кнігарні „Дома кнігі“ ў Бельску Падляшскім, вул. Міцкевіча 68, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

Купала Янка, Публіцыстыка, 1972, стар. 296, цана 7 зл.
Кнігу складае публіцыстычная спадчына Янкі Купалы — артыкулы, нарысы, рэцэнзіі, прамовы, успаміны, інтэрв'ю і іншыя публіцыстычныя творы.

Машара Міхась, Вершы, 1971, стар. 416, цана 9 зл. 50 гр.
У гэты аднатомнік увайшлі выбраныя творы старэйшага беларускага паэта, які свой творчы шлях пачынаў яшчэ ў 30-тыя гады ў Заходняй Беларусі.

Пушча Язэп, Вершы, 1968, стар. 176, цана 5 зл. 80 гр.
Зборнік выбраных вершаў беларускага паэта старэйшага пакалення, які памёр у 1964 годзе.

Навуменка Іван, Тая самая зямля, 1971, стар. 208, цана 3 зл. 60 гр.
У кнігу ўвайшлі апавяданні розных год аб выпрабаваннях савецкіх юнакоў і дзяўчат у суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны.

Вытокі песні, 1973, стар. 336, цана 10 зл. 60 гр.
Вельмі цікавая кніга! Яна складаецца з аўтабіяграфій беларускіх пісьменнікаў розных пакаленняў. У выданні 55 аўтараў піша аб сабе, сваім жыцці і творчасці.

Беларуская літаратура, 1971, стар. 336, цана 9 зл. 40 гр.
Падручнік, які адрасуецца для сярэдніх спецыяльных устаноў. Можа прыгадзіцца вучням сярэдніх школ, а таксама могуць выкарыстаць яго настаўнікі васьмікласных школ. Шмат увагі адводзіцца ў падручніку беларускай савецкай літаратуры на сучасным этапе яе развіцця.

Булахаў М. Г., Гісторыя прыметнікаў беларускай мовы, 1971, стар. 296, цана 16 зл. 60 гр.
Другая частка (сінтаксіс) фундаментальнага даследавання па гісторыі прыметнікаў беларускай мовы ў XIV-XVII стагоддзях. У ім разглядаецца атрыбутыўнае і прэдыкатыўнае ўжыванне гэтай часціны мовы.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу:

Bielsk Podlaski, 17-100, ul. Mickiewicza 68, „Dom Książki” Nr 8 woj. białostockie.

(мг)

## Там, дзе верхаводзяць жанчыны

Дзе як дзе, але ў вёсцы Кур'яны Беластоцкага павету на першым плане жанчыны. Найактыўнейшы тут гурток вясковых гаспадынь (КГВ). Кабеты дайшлі да вываду, што найлепш супольна вучыцца таму, як варыць, пячы, рабіць кампоты, вышываць, шыць вопратку або коўдры. І так, у дружнай кампаніі і ў згодзе працуюць ужо 15 год. КГВ нязменна вядзе настаўніца Яніна Гжэгорчык. Адна з цікавых форм працы ў жанчын з Кур'ян — „каляндар імянін“. У дзень імянін той ці іншай жанчыны ўсе члены КГВ наведваюць яе дома, прыходзячы з пажаданнямі і з падарункамі. „Каляндар імянін“ мае тут доўгую традыцыю.

У штодзённым жыцці клапатлівыя гаспадыні арганізуюць супольную гадоўлю куранят, вырошчваюць малавядомую агародніну, павышаюць гігіену малака.

У клубе „Рух“ яны выступаюць з п'есамі, песнямі, слоўна-музычнымі мантажамі. Працай клуба кіруе Леанарда Жукоўская. Існуе ён ужо 10 год. Пад кірункам Л. Жукоўскай працуюць гурток юных жывапісцаў і тэатральны гурток. Асабліва члены тэатральнага калектыву даволі часта выступаюць перад вясковай публікай. Самадзейнай справе многа часу прысвячаюць Ірэна Галубовіч, Гражына Хмяльніцкая, Лявон Галубовіч.

Клуб у Кур'янах часта наведваюць журналісты, пісьменнікі, акцёры. Разыходзіцца многа экземпляраў прэсы і кніжак. Леакадзія Жукоўская мае ўжо ў гэтым вопыт. Арганізуе кніжныя латарэі, кірмашы, конкурсы, згадуй-згадулі. Умее зацікавіць кніжкай або інфармацыяй ці артыкулам у газеце.

Клуб „Рух“ у Кур'янах адзін з лепшых у павеце. Між іншым таму, што ў ім верхаводзяць жанчыны. (ця)

## Сакольская „сталярка“

Прадпрыемства будаўнічай сталяркі (ЗСБ) імя С. Прытыцкага ў Саколцы ўжо паўтара года прадукуе ў асноўным вокны і дзверы на патрэбы будаўнічых прадпрыемстваў. Цяпер прадукуе 800 тысяч метраў будаўнічай сталяркі рознага асартыменту. Працуе тут 1070 асоб. Палавіна ўсіх працуючых — гэта жанчыны. Па велічыні сакольскае „сталярскае“ прадпрыемства ўступае толькі падобнаму прадпрыемству ў Валаміне пад Варшавай. Рабочы калектыў малады. Яго сярэдні ўзрост 22—24 гады. Многія з рабочых упершыню знаёмяцца з працай у завадскім цаху, ды „вывучаюць“ прамысловасць.

Варта адзначыць, што ўвесь рабочы калектыў у гонар святкавання 30-годдзя Польскай Народнай Рэспублікі абавязаўся дадаткова працаваць пяць нядзель па 6 гадзін.

Да людзей добрай работы належаць: Іяланта Кунда, Тадэуш Грынкевіч, Тэрэса Малішэўская, Мечыслаў Доўгірд, Зофія Міхалоўская, Чэслаў Грудзень, Анна Пушко, Ядвіга Хомка, Крыстына Галубовіч, Ядвіга Крэмпа (на здымку), Галена Аніськo, Галена Шаркоўская, Чэслаў Грышко, Вацлаў Сергавіцкі, Эдмунд Пухальскі і іншыя.

**Тэкст і фота Я. Цялушэцкага**

*Маладая вопытная работніца Ядвіга Крэмпа ля станка.*



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# Першая

Гісторыя класічнага і сучаснага музычнага мастацтва ведае шмат славутых імён. Аднак першымі сярод іх называюць заўсёды імёны тых мастакоў, якім сілай свайго таленту першым давялося адкрыць новую, яшчэ чыстую старонку творчага летапісу свайго часу.

Для музычнай культуры беларускага народа адным з такіх, першых,



*Выступае старшыня праўлення Беларускага тэатральнага таварыства народная артыстка СССР Л. Александроўская.*

імён з'яўляецца імя Ларысы Александроўскай — народнай артысткі СССР, мастака рэдкага дару, чый жыццёвы шлях вось ужо 45 гадоў неадлучны ад зараджэння, станаўлення і далейшага развіцця нацыянальнага опернага мастацтва.

На оперную сцэну Ларысу Александроўскую прывяла беларуская народная песня. Тая песня, якую чула яна з дзіцячых гадоў і ўжо ў юнацтве ўспрымала не толькі як шчыры задушэўны напеў на простыя словы, але і як блізкую, зразумелую карціну з навакольнага жыцця. Бадай таму, калі ў 1927 г. маладая спявачка беларускіх народных песень Александроўская ўпершыню ў гісторыі свайго народу выступала з канцэртамі на міжнароднай музычнай выстаўцы ў Франкфурце-на-Майне, у Швецыі і іншых краінах Заходняй Еўропы, яе спеў выклікаў такое здзіўленне і захапленне слухачоў.

А пасля нарадзілася і захапленне яе оперным талентам. Гэта было ў 1928 г., калі Ларыса Александроўская закончыла першую беларускую прафесіянальную музычную навуковую ўстанову — Дзяржаўны музычны тэхнікум у Мінску, і ў выпускным оперным спектаклі „Фауст" бліскуча выканала партыю Маргарыты.

І калі ў 1933 годзе операй „Кармэн" быў упершыню ў гісторыі беларускага народу адкрыты Беларускі дзяржаўны тэатр оперы і балету, партыю гераіні гэтага твора выконвала Ларыса Александроўская. Газеты пісалі пра нараджэнне артысткі, чыё мастацтва дастойна майстэрства буйнейшых мастакоў і галасавыя магчымасці якой — унікальныя: дыяпазон ад высокага сапрана ў партыі Маргарыты да нізкага мецца-сапрана — у „Кармэн".



*Май, 1933 год. Адкрыццё Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балету. Л. Александроўская ў партыі Кармэн.*

На працягу некалькіх гадоў працы прымадона беларускага тэатра прымусіла загаварыць аб сабе ў спектаклях „Русалка" А. Даргамыжскага (Наташа), „Яўгеній Анегін" П. Чайкоўскага (Таццяна) і яго ж „Пікавая дама" (Ліза), „Князь Ігар" А. Барадзіна (Яраслаўна), „Ціхі Дон" І. Дзяржынскага (Аксіння).

Толькі пералічэнне класічнага і нацыянальнага рэпертуару Ларысы Александроўскай, оперных сцэн, гарадоў СССР і краін Еўропы, у якіх яна выступала ў спектаклях і на канцэртных эстрадах, заняло б многа старонак. Гэтыя выступленні праходзілі ў даваенныя гады, у гады II сусветнай вайны — у тылу і на фронце, аж да Берліна і Кенігсберга, шэраг пасляваенных год. Будучы ўдзельнікам кангрэсаў Міжнароднай дэмакратычнай федэрацыі жанчын, антыфашысцкіх асамблей, канферэнцый прыхільнікаў міру, Міжнароднага інстытута тэатра і іншых сімпозіумаў, артыстка заўсёды з вялікім поспехам заканчвала свае прамовы песняй, выклікаючы авацыі залы, падкрэсліваючы непарыўнасць свайго мастацтва з жыццём усіх сумленных людзей на зямлі.

Гаворачы аб Ларысе Александроўскай, нельга не ўказаць на яе рэжысёрскую дзейнасць. Гэта яна ўпершыню ў Савецкім Саюзе ажыццявіла на сцэне Дзяржаўнага акадэмічнага ордэна Леніна Вялікага тэатра оперы і балету Беларускай ССР пастаноўку „Страшнага двара" вялікага польскага кампазітара Станіслава Манюшкі. У яе рэжысёрскім вырашэнні ўбачылі свет рампы беларускія нацыянальныя оперы „Дзяўчына з Палесся" Я. Цікоцкага, „Надзея Дурава" А. Багатырова, „Ясны рассвет" А. Туранкова.

Патрэба тварыць для людзей узбагачала яе вялікую разнабаковую дзяржаўную і грамадскую дзейнасць як дэпутата Вярхоўных Саветаў СССР і БССР, старшыні Беларускага тэатральнага таварыства на працягу амаль трох дзесяцігоддзяў. Адзначаючы 70-годдзе гэтага знакамітага прадстаўніка беларускай нацыянальнай культуры, беларуская грамадскасць разумее, што тры ордэны Леніна, ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга і медаль лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР — гэта не толькі высокая ацэнка першаадкрывальніцы скарбаў мастацтва, але і мастака-гуманіста, прысвяціўшага сваю ліру людзям.

**І. Нісневіч**




*1928 год. Дэбют артысткі Л. Александроўскай у оперы „Фауст" Ш. Гуно.*

## Кутак практычных ведаў




### КВЕТКІ Ў КОЖНАЙ ХАЦЕ

Усім вядома, што нічога так не ажывіць, не ўпрыгожыць вашу кватэру, як жывая, пахучая кветка. Набліжаецца сезон, калі кожная жанчына будзе мець магчымасць уставіць кветку ў вазачку і не будзе гэта патрабаваць вялікіх выдаткаў.

Але трэба заўсёды памятаць, што кветкі трэба падбіраць так, каб яны падыходзілі да вашай кватэры і стваралі нейкую гарманічную цэласць. Кожную кветку можна паставіць так, што будзе яна выглядаць прыгожа. Сцябло кветак трэба зрэзваць коратка — бо не яно мае ўпрыгожваць нашу кватэру, а сама кветка. Варта абрэзаць і непатрэбнае, лішняе лісцё. Кветкі трэба ставіць так, каб па меры магчымасці ўсе сцяблінкі выходзілі з аднаго месца, а толькі кветкі выхіляліся на бакі.

Раім таксама вышукоўваць усё новыя спосабы ўпрыгожвання кватэры кветкамі. Неабавязкова ўстаўляць кветкі ў шаблонныя вазачкі. Значна лепшы эфект можна атрымаць, кладучы кветкі ў керамічную місачку, у вялікі кілішак, у шклянку, ці нават на сподачак.

Кветкі ў такіх букетах трымаюцца пры дапамозе так званай японскай кензаны, якая служыць для ўкладвання ікебаны. Дасканалы эфект дае ўкладанне кветак на спецыяльных губках, якія толькі паказваюцца ў квяцярнях. Пакуль аднак гэты артыкул стане агульнадаступным, варта выкарыстаць звычайны дрот. Дрот павінен быць з медзі, каб не іржавеў. Звіваем яго на пальцах левай рукі прыблізна так, як пачынаем звіваць воўну на клубок, толькі вельмі свабодна. У атрыманыя такім чынам „вочкі" ўтыкаем паасобныя сцяблінкі кветак, лісцё, травы згодна з нашым замыслам кампазіцыі.

Можна рабіць разнастайныя букеты ці з кветак аднаго гатунку, ці з розных кветак, якіх поўна бывае ў агародах ля хат. Можна, напрыклад, зрабіць букет з кароценькіх настурцый, з вышэйшых вяргіняў у большым збанку, а можна нават і з палявых кветак, сабраных ля дарогі ці на лузе. А можна, напрыклад, белыя высокія калы спалучыць з кароценькай настурцыяй, дадаць яшчэ нейкіх чырвоных дробных кветачак, дадаць да букету некалькі сцяблінак высокай травы і таксама атрымаецца прыгожы букет.

**Гаспадыня**






У глухую поўнач у хату Вышаслаўскага ціха пастукалі — два ўдары, паўза і зноў два ўдары. Дзверы бясшумна адчыніліся і прышэльцаў упусцілі ў хату, не спытаўшы, хто ён. Чалавек дыхаў, бурклiва лаяўся:

— Усюды салдаты, пся крэў, патрулі, ледзь прабраўся. Дай чаго горла прамачыць.

У кухні завесілі акно, запалілі газоўку. Дрыготкі язычок яе асвяціў старога Вышаслаўскага і высокага, шырокага ў плячах чалавека з доўгімі рукамі і густой шапкай рыжых валасоў. На ім быў даволі заношаны фрэнч зелянкавага колеру, перакрыжаваны рамянямі. Адшпіленая кабура вісела на рамяні злева на фашысцкі манер.

Гэта быў старэйшы сын Вышаслаўскага Уладыслаў — былы паручнік польскай арміі. Ён паклаў на стол пісталет і рабрыстую гранату-лімонку, выпіў адразу конаўку вады.

— Навіны якія ёсць?

— Кепска, Веслаў. Саветы да нас падбіраюцца, а галыцьба радуецца, раты паразяўлялі на чужое дабро...

— Што тут у савецкіх новага? — нецярпліва перапыніў Уладыслаў.

— Палкоўніка падстрэлілі.

— Зусім?

— Не, руку толькі папсавалі. А яны Анджэя забілі.

— Не пабярогся Анджэй.

— Прывезлі яго сюды. З нашых не прызнаў ніхто, а Касцянерскі з сынам пайшлі і сказалі.

Уладыслаў плюнуў і моцна вылаяўся.

— Ну, пачакай, пан Тадэуш, дабяруся я да цябе, будзеш ведаць, як Саветам пяткі лізаць. Яшчэ што?

— Затрымалі салдаты нейкага, кажуць, парашутыст нямецкі. У горад павезлі.

— Добра. Яшчэ?

— Пра цябе і Людвіга начальнік дапытваўся, дзе ды што.

— Ну?

— Ну, я сказаў, не вем. Пэўна, недзе прапалі.

— Добра. Слухай, бацька, справа вось якая. Пасля той гісторыі з палкоўнікам рускія насцеражыліся. Вёску ачапілі, хадзіць сюды стала небяспечна. Ды і пра мяне яны не так сабе пыталі. Давядзецца табе і Стасьцы да лесу матацца. Заўтра прывязеш сала, мукі. Будзем чакаць цябе ля падгарэлай сасны на балоце, ты ведаеш дзе...

— Ведаю, зраблю. Толькі б мне...

— Зноў? Ну і сквапны ж ты, старыкан. Для цябе ж стараемся, у балотах гніём, а ты? Эх, ты!

— Ды я так, усё ж такі спакайней яно...

— Добра, трымай. — Уладыслаў выняў з кішэні фрэнча залаты гадзіннік з масіўным ланцужком і кінуў на стол. Стары хуценька, быццам баючыся, што сын адумаецца, накрыў гадзіннік далонню.

— Дабро не беражэш, Веслаў, — прабурчэў ён, — яшчэ раздавіш дзе.

— А чорт з ім, з дабром. На мой век яго хопіць, а там — хоць патоп. Што чуваць пра Людвіга?

— Ды вось прыехаць павінен.

— Што яму тут трэба?

— Родную хату, пiша, хоча пабачыць.

— Родная хата ў яго ў Расіі, туды хай і коціцца.

Уладыслаў узяў у левую руку пісталет, у правую — гранату, адагнуў металічныя вусікі на засцерагальным рычажку.

— Ну, я пайшоў, бацька. А Касцянецкаму скажы: хай сабе месца на могілках выбірае. Мы не шкадуем здраднікаў.

— Даўно пара. Ды вы толькі гаворыце, а не робіце.

— Спраў у нас па горла, бацька...

Уладыслаў слізгануў за дзверы, а стары пагасіў газоўку і адсунуў фіранку на акне. У кухню ўвайшла Стася.

— Уладык быў, тата?

— Ён. Цішэй.

Недзе на канцы вёскі бахнуў стрэл, затым ірванула граната, разанула аўтаматная чарга, і ўсё сціхла.

— Тата, гэта ён? — спалохана спытала Стася, уздрыгваючы ўсім целам.

— Не ведаю. Ідзі спі. Няма чаго тут калаціцца.

**(Працяг будзе)**



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ТРЫБУНА чытачоў

### НЕВЯСЁЛЫЯ СВЯТЫ

Вось прыйшоў вясёлы час,
Як настаді святы,
Весяліліся ўсе людзі,
Бедны і багаты.
Бо й марозу не было,
Прыемна пагода,
Клейніцкае маладзёжы
Усім нам было шкода.
Як хадзілі па сяле
І як наракалі,
Што ад іх каханы клуб —
Усю радасць забралі.
Прошлы святы клуб ў нас быў,
Дык мы радасць мелі,
Як у небе ясны зоркі,
Мы усе гарэлі.
Сёння ходзім мы ў святы,
Як чорныя хмары,
Ды й за што нам клуб забралі,
За якія кары?
Сёння ходзім мы па вёсцы,
Ды й усё блукаем,
Не у радасці, а ў тросцы,
Прыюту не маем.
Што мы кепска ці зрабілі,
Ці што мы сказалі,
Што ад нас — ад маладых
Клуб-радасць забралі.
Грошай столькі мы не маем,
Каб клуб зноў купіці,
Пойдзем, купімо гарэлкі,
Будзем з гора піці.
Як нап'емося гарэлкі,
Тады заспяваем
І забудземся пра тое,
Што долі не маем.
Іншы кажуць — піць гарэлку
То вельмі нягожа.
Па двары хадзіць спяваці —
Хтось скараці можа.
Калі хтосьці так задумаў
Радасць нам адняці,
Папрашчаемося, сябры,
Ідзем дадому спаці.

**Іван Грыгарук,**
Клейнікі




### ЛЫЖЫ

Эх, лыжы, лыжы! Аднойчы ў дзяцінстве захацелася мне пакатацца на лыжах. Выкарыстаўшы момант, што хтосьці да нас прыйшоў і мачаха загаварылася, хутка абкруціў я ногі анучамі, а на плечы накінуў бацькаў летнік, ды гайда на панадворак. Тут хутка адарваў два астраколы і зрабіў сабе лыжы. Прывязаў да ног і як найхутчэй на сяло.

На вуліцы было многа дзяцей, ды ім можна, у іх ёсць бацькі і маці, а мне нельга, бо ў мяне мамы няма.

Цяпер арганізуюць розныя лыжныя конкурсы ў міжнародным маштабе і ўсё добра, ніхто не здзіўляецца, а тады? Як убачыла дзядзіна Надзя мяне на лыжах ля сваёй хаты, дык падумала, што ўбачыла чорта з рагамі. Выбегла з хаты і давай крычаць на усю вуліцу: „Ах, ты сыруотко, людэ говорат, што мачоха ёго б'е, а вуон, бачтэ, лодар, по гуліці бiегае, замест глядыеты дыты. Шчэ нартув ёму зохотыелось, коб ты выхворыў. Быты гада і духу слухаты. Ты, дурню, я б тобе дулю дала под нуос, а нэ есты, колі ты ныць нэ робыш, оно по гуліці бiегаеш. Бачтэ, людэ, вуон румняецца з дытьмы“.

Далей я ўжо не слухаў, што яна гаварыла, бо і ў самой справе, як я магу раўняцца з дзяцьмі? Я ж не дзіця, бо ў мяне мамы няма. Яна памерла ўжо даўно, калі мне споўніўся ўсяго адзін год. Якое ж тады маё права раўняцца з дзяцьмі, за якіх ёсць каму заступіцца?! За мною не было каму заступіцца нават тады, калі білі мяне іншыя дзеці або мачаха. Чаму ж у такім выпадку дзядзіна не магла мяне аблаяць, каб падлізацца мачасе?!

Але яна раз назаўсёды адвучыла мяне ездзіць на лыжах. Пры тэтым яна зрабіла і другую рэч, менавіта, яшчэ раз я даведаўся, што нічога не варты людзі, таму, што ўсе несправядлівыя. І замкнуўся ў сабе, нічога нікому не кажучы. Не сказаў нікому нават, што ад мачахі дастаў лупня за тое, што ўцёк з хаты. Нікому не скардзіўся, толькі крычаў ад болю і прасіўся, што больш не буду. І так было заўсёды.

**Васіль Петручук**

## Нарада важатых

Камэнда гуфца ЗГП склікала нараду гарцэрскіх і зухавых важатых Беластоцкага павету. Прыняло ў ёй удзел каля 100 чалавек. Апрача інструктажу, адбываліся практычныя заняткі ў дружынах. Вельмі цікавай была зуховая прысяга, якая адбылася ў пачатковай школе ў Ксенжыне. Усё падрыхтавала важатая — настаўніца школы ў Ксенжыне Марыся Куроўская. На ўрачыстасць яна запрасіла таксама бацькоў.

Варта адзначыць, што ў Беластоцкім павеце многія важатыя, асабліва жанчыны атрымалі службовыя мундзіры. Як паведаміў камендант гуфца Яўген Зіневіч, да 1 мая яны плануюць умундзіраваць усіх важатых у павеце.

**Мікола Краўчук**




**Дарагое „Сэрцайка“!**

Мне дзевятнаццаць год. Бацькі мае жывуць на вёсцы, а я вучуся ў апошнім класе ліцэя. У мінулым годзе на канікулах быў я на вёсцы і там пазнаёміўся з дзяўчынай Валяй. Жыве яна ў суседняй вёсцы, а вучыцца ў тэхнікуме ў Беластоку. Яна мне вельмі спадабалася. На канікулах я некалькі разоў пабываў у яе доме. Разам гулялі мы на вясковых забавах. Але, калі распачаўся навучальны год, я паехаў у Варшаву, а Валя ў Беласток. Спатыкацца ўжо няма магчымасці, і мы толькі перапісваемся. Пісьмы пішам даволі часта. Нядаўна пабываў я ў клубе БГКТ у Варшаве і там пазнаёміўся з дзяўчынай Ірай, якая мне спадабалася больш ад Валі. Мы часта спатыкаемся, бо і жывем недалёка, таму што яна жыве і вучыцца ў Варшаве. Запрасіла мяне да сябе дадому. Спадабаліся мне і яе бацькі. Яны вельмі ветліва і сардэчна да мяне адносіліся. Пасля заканчэння сярэдняй школы мы маем намер ісці вучыцца ў адну вышэйшую ўстанову, а калі б у будучыні ўсё добра склалася, дык плануем і пажаніцца. Праўда, калі я яшчэ толькі з Валяй хадзіў, дык мы таксама планавалі пажаніцца. Але цяпер мяне ўжо да яе і не цягне, радзей пішу пісьмы. Аднак жа ў мяне дзве дзяўчыны і не ведаю, каторую выбраць? Можа ты, „Сэрцайка“, мне падскажаш?

**Чытач з Варшавы**

Чытач! Мне здаецца, што ты ўжо сам выбраў сабе дзяўчыну — гэтую варшавянку. Пішаш жа, што яна табе лепш ад Валі падабаецца. Не без уплыву тут напэўна і адлегласць. Іра на месцы — Валя далёка. З Ірай спатыкаешся часта, а з Валяй толькі перапісваешся. Аб жаніцьбе гаварыць яшчэ рана. Але хто ведае, калі пойдзеце вучуцца ў адну вышэйшую школу, можа вашы планы і рэалізуюцца.

**„Сэрцайка“**

## Новы пункт скупкі малака

У вёсцы Кньшэвічы каля 30 год ужо існуе пункт скупкі малака. Працаваў ён раней у розных каморках і сенцах. Так скуплялася малако з дзвюх вёсак — Кньшэвіч і Слоі. Вядома, была цесната, не было дзе стаяць і пасуду паставіць. Але прыйшоў канец гэтай цесн аце. На днях гаспадары Кньшэвіч атрымалі новы пункт скупкі малака, ці як тут проста гавораць — малачарню. Пабудавала яе Акруговая малачарская спулдзельня ў Саколцы.

Цяпер у малачарні ў Кньшэвічах зручна і прыгожа. Малако прымае Яўгенія Чаховіч, якая ветліва адносіцца да ўсіх пастаўшчыкаў малака і ніхто на яе не скардзіцца.

**Т.К.,**
Кньшэвічы

## Вечарынкі

Крывяціцкая моладзь — члены БГКТ і ЗСМВ наладзілі дзве танцавальныя вечарыны. Іграў аркестр з Беластока. Весела і прыемна гулялі хлопцы і дзяўчаты з Орлі, Мора, Старога Корніна, Міклашоў, Старога Беразова і Крывяціч.

**І. Кірызюк**

## Калі паедзе аўтобус з Кожына

Кожына Вялікае і Малое (адна вёска) ляжыць паміж дзвюма рэчкамі: Локніцай і Нарвай. Наша вёска належыць да гміны ў Бельску Падляшскім. Хоць невялікая гэта вёска, не на апошнім аднак яна месцы і ў кантрактацыі збожжавых, і ў гадоўлі свіней, яловак, і ў выкарыстанні штучных угнаенняў.

Горш у нас тое, што вёска ляжыць далёка і ад бельскай, і ад беластоцкай шашы. З Кожына да бельскай шашы 8 км, а да беластоцкай — 10 км.

Маем, праўда, ужо новую дарогу з Кожына ў Бельск праз Зубава і Плёскі. Па ёй можа паехаць аўтобус ПКС. Грамадскім чынам вёска Кожына папрацавала пры гэтай дарозе, на адрэзку між Кожынам і Зубавам. Кожны гаспадар павінен быў прывезці 40 фурманак пяску. Людзі акопвалі равы і хадзілі — збіралі ад кожнага па 40 зл. Уся вёска выйшла на партыйны чын, выехалі тры трактары з сельгасгуртка ў Кожыне, быў нават сваім уласным трактарам гаспадар Мікалай Грыгарук. Усе рабілі дарогу. Потым яшчэ раз выйшлі працаваць пажарнікі з Кожына. 75 прац. працы пры будове дарогі выканалі жыхары Кожына грамадскім чынам.

Я прачытаў раней у „Ніве“, што жыхары Плёскаў хацелі б, каб ПКС прыязджаў да іх пад хаты, бо ім цяпер быццам далёка да прыпынку — 2 км. А што ж мы ў Кожыне можам сказаць на гэта? Наша моладзь таксама вучыцца і працуе, ды таксама даязджае ў Бельск. А да прыпынку ў нас сапраўды далёка. І яшчэ якія цяжкасці выступаюць: то спазніўся аўтобус, то ўвогуле не прыехаў. Мы аднак многа не вымагаем. А цяпер, калі зрабілі дарогу, чакаем, каб хутчэй па ёй пайшоў з Кожына ў Бельск, праз Зубава і Плёскі, аўтобус.

**(ют)**

## Вядомы ў БГКТ



Мікалай Зін з'яўляецца актывістам гуртка БГКТ у Гайнаўцы ад моманту ўзнікнення нашай арганізацыі. Ён прымае ўдзел у арганізацыйных працах, розных мерапрыемствах, якія арганізуюць гурток ці праўленне аддзела ў Гайнаўцы.

Шырока ўключаецца ў распаўсюджванне выдавецтваў БГКТ, папулярызуе „Ніву“.

Памагае і падказвае маладым актывістам, як праводзіць працу ў гуртках. Яго як дзеяча БГКТ ведаюць у многіх гуртках па гайнаўскіх вёсках.

**В. Бура**

### У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

## Ёсць гаспадар, будзе парадак

**АДКАЗВАЕ: Urząd Miejski w Bielsku Podlaskim.**

Urząd miejski w Bielsku Podlaskim Referat Gospodarki Komunalnej i Mieszkaniowej niniejszym informuje o poczynionych krokach i przedsięwzięciach w celu uporządkowania i zapewnienia odpowiedniej estetyki i funkcjonowania szaletu przy targowicy nabiałowej.

Decyzją z dnia 14.06.1971 r. Wydział Gospodarki Komunalnej i Mieszkaniowej byłego Prezydium Powiatowej Rady Narodowej w Bielsku targowica nabiałowa i szalet zostały przekazane w użytkowanie Gminnej Spółdzielni „Sam. Chłop.” w Bielsku Podlaskim (protokół zdawczo-odbiorczy przejęcia szaletu z dnia 30.06.1971 r.)

Na początku 1973 r. został przeprowadzony na terenie Bielska Podlaskiego nowy pomiar gruntów, w związku z czym uległy zmianie numery geodezyjne działek i ich powierzchnia. Z tego względu Gminna Spółdzielnia „Sam. Chłop.” wystąpiła do Wydziału Gospodarki Komunalnej, Przestrzennej, Ochrony Środowiska i Komunikacji o uchylenie istniejącej decyzji i pozostawiła szalet bez nadzoru.

Wydział Gospodarki Komunalnej, Przestrzennej, Ochrony Środowiska i Komunikacji po rozpatrzeniu sprawy wydał dnia 18 grudnia 1973 r. nową decyzję Nr ZGT-I-620/12/73 obejmującą również i szalet. Gminna Spółdzielnia wniosła odwołanie do Urzędu Wojewódzkiego w Białymstoku Wydział Gospodarki Komunalnej i Mieszkaniowej, który utrzymał decyzję I-szej instancji w mocy (decyzja Nr. GKM-I-620/1/74 z dnia 26 stycznia 1974 r.). W związku z tym Urząd Miejski dokonał kontroli stanu szaletu i zobowiązał Gminną Spółdzielnię „Sam. Chłop.” w Bielsku Podlaskim do doprowadzenia szaletu do odpowiedniego wyglądu w terminie do dnia 22 lutego br. W przypadku niewykonania decyzji tut. Urzędu sprawę skierujemy na drogę postępowania egzekucyjnego w celu przymuszenia do wykonania. Referat Gospodarki Komunalnej i Mieszkaniowej tut. Urzędu został zobowiązany do dokonywania okresowych kontroli stanu szaletu. O ostatecznym sposobie załatwienia powyższej sprawy informujemy odrębnym pismem.

Jednocześnie tut. Urząd przeprasza za tak długą zwłokę w udzieleniu odpowiedzi, która była wynikiem toczącego się postępowania administracyjnego, jak również zmian personalnych.

**z. up. Naczelnika Miasta**
**Kazimierz Sawicki**
**Kierownik Referatu**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Zimorodek” (radz.), 12—13. „Dramat zazdrości” (włoski), 14—15. „Śmiech w ciemności” angl.), 16—17.

**Чаромха**

„Gangsterski walc” (franc.), 12—13. „Spotkałem nawet szczęśliwych cyganów” (jugosł.), 16—17.

**Кляшчэлі**

„Trzy dni Wiktora Czernyszewa” (radz.), 12—13. „Kanał” (polski), 14—15. „Gra” (polski), 16—17.

**Нараўка**

„Ocalenie” (polski), „Dramat zazdrości” (włoski), 13—17.

**Нарва**

„Homolkowie na urlopie” (czeski), „Pokój przechodni” (NRD), 13—17.

**Чыжы**

„Hubal” (polski), „Skok o świcie” (radz.), 13—17.

**Дубічы Царкоўныя**

„Pozwólcie startować” (radz.), „Ja wam pokażę” (NRD), 13—17.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**

„Wynajęty człowiek” (USA), „Słuchajcie bicia dzwonów” (jugosł.), 13—17.

**Райск**

„Ciepło twoich rąk” (radz.), „Opętanie” (polski), 13—17.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Absolwent” (USA), 16—17.

**Міхалова**

„Najlepsza kobieta mojego życia” (CSRS), 12—13. „Posag księżniczki Ralu” (rumuński), 14—15. „Staroświecki dramat” (radz.). 16—17.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**

„Z tamtej strony tęczy” (polski), „Most” (jugosł.), 13—14.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Ambasadorowie nie mordują” (NRD), 12—13. „Słoń z indyjskiej dżungli” (radz.), 14—15. „Co ważne w życiu” (czeski), 16—17.

**Мілейчыцы**

„Nareszcie poniedziałek” (węgierski), 12—13. „Tygrysiątko” (bułg.), 14—15. „Godziny szczytu” (polski), 16—17.

**Мельнік**

„Lucia” (kubański), 12—13. „Pippi w kraju Taka-Tuka” (szwedzki), 14—15. „Pechowy zalotnik” (franc.), 16—17.

Ніва

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch”. Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa”, Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicyści 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł, półrocznie: 14,40 zł. kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch” w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch”. Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40 proc. Nr indeksu 36911.

BZGraf. Nakład 7954 O-3



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

